**Гродна**
№ 16 (427),
6 верасня 2015

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ДАЗВОЛЬЦЕ ДЗЕЦЯМ ПРЫХОДЗІЦЬ ДА МЯНЕ




*Дзяцей важна з самых ранніх гадоў прывучаць да шчырай пабожнасці*

**Вось і настала школьная пара. Па ўсёй краіне прайшлі ўрачыстыя лінейкі, і дзеці пасля вясёлага летняга адпачынку распачалі чарговы навучальны год. Напярэдадні 1 верасня, згодна з добрай традыцыяй, у каталіцкіх святынях адбыліся набажэнствы, падчас якіх маліліся аб патрэбных ласках для дзяцей і моладзі. Таксама былі асвечаны заплечнікі і школьныя прылады. Але не варта забывацца пра тое, што разам з новым навучальным годам распачаўся таксама год катэхетычны, які будзе спрыяць узрастанню ў мудрасці і веры.**

Біскуп Гродзенскі Аляксандар Кашкевіч кожны год у пастарскім лісце на пачатак новага катэхетычнага года звяртаецца з такімі словамі да бацькоў, дзяцей, моладзі і катэхетаў: "Навучанне і выхаванне ў веры належыць да найважнейшых задач Касцёла, вызначаных Езусам Хрыстом. Хрыстос пасылае Вас да кожнага чалавека: «Ідзіце на ўвесь свет і навучайце ўсе народы, хрысціце іх у імя Айца, і Сына, і Духа Святога. Вучыце іх захоўваць усё тое, што Я вам наказаў. А Я з вамі праз усе дні аж но да канца свету» (Мц 28, 19–20)". Згодна з гэтым заклікам, у кожнай парафіі нашай дыяцэзіі праводзіцца сістэматычная катэхізацыя дзяцей і моладзі аж но да часу заканчэння імі навучання ў сярэдняй школе.

Святары, катэхеты, манаскія сёстры і свецкія асобы ахвярна і нястомна працуюць, каб як мага больш дзяцей і моладзі пачулі Божае слова, пазналі Хрыста і Яго Добрую Навіну. Катэхетам даводзіцца працаваць з рознымі групамі: дзецьмі, што рыхтуюцца да Першай святой Камуніі, з падлеткамі, вучнямі старэйшых класаў, а таксама са студэнтамі і працуючай моладдзю. Да кожнага катэхеты знаходзяць свой падыход, патрэбныя словы, каб данесці Божае слова, умацаваць дар веры.

• працяг на с. 3

## Каляндар падзей

***8 верасня***
*нараджэнне НПМ. Бласлаўленне зерня на пасеў.*

***14 верасня***
*свята Узвышэння Святога Крыжа.*

***15 верасня***
*успамін МБ Балеснай.*

***18 верасня***
*успамін св. Станіслава Косткі, заступніка дзяцей і моладзі.*

## Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

***"Голас Евангелля"***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.*
***Кожную нядзелю ў 8.00***
*запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*

***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

***Рэдакцыя газеты "Слова Жыцця" шукае спецыяліста з веданнем беларускай і польскай моў на пасаду перакладчыка. Звяртацца да 12 верасня бягучага года па тэлефоне: (8029) 637-07-17.***

## Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

***Ці дапамагаеце Вы бескарысліва?***

- *бацькам*
- *роднаму брату/сястры*
- *сваякам*
- *сябрам*
- *суседзям*
- *знаёмым*
- *чужым*
- *ворагам*
- *нікому*

**Выкажыся**

Слова Жыцця
№ 16, 6 верасня 2015




### XXIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мк 7, 31–37**

Езус выйшаў з зямель Тыру і прайшоў праз Сідон да Галілейскага мора, пасярод межаў Дэкаполіса. І прынеслі да Яго глуханямога, і прасілі, каб усклаў на Яго руку. Адвёўшы яго далей ад натоўпу, паклаў у яго вушы свае пальцы і, плюнуўшы на іх, дакрануўся імі да ягонага языка. І, паглядзеўшы на неба, уздыхнуў і сказаў яму: "Эффата!" – што значыць: "Адкрыйся". І адразу ж адкрыліся вушы ягоныя і развязаліся путы языка ягонага, і пачаў гаварыць выразна.

Тады Езус загадаў ім, каб нікому не казалі. Але колькі ні забараняў ім, яны яшчэ больш апавядалі. І, будучы надзвычай здзіўленымі, казалі: "Ён зрабіў усё добра: учыніў, што глухія чуюць, а нямыя гавораць".

## АТРЫМАЦЬ СВАБОДУ – ЗНАЧЫЦЬ, АДКРЫЦЦА НА БОЖУЮ МОЦ

"Effata" – "Адкрыйся!" з Евангелля – гэта не толькі вяртанне здароўя, ацаленне ад фізічнай слабасці. Гэты цуд быў здзейснены ў адзіноце, далёка ад натоўпу, можна сказаць, амаль у атмасферы блізкасці Езус вярнуў хвораму найбольш глыбока разуметую свабоду: з хвіліны аздараўлення ён мог чуць, гаварыць і гэтым самым аддаваць Богу хвалу! Нават забарона расказваць не змагла стрымаць у ім унутранай неабходнасці абвяшчаць аб аздараўленчай моцы Езуса.

У гэты момант можна паспрабаваць адказаць на пытанне: калі чалавек на самой справе з'яўляецца свабодным? Свабода з апісанай падзеі азначае выключэнне ўсіх абмежаванняў у дзеяннях і выказваннях асобы. Вяртанне, карыстанне ўсімі чалавечымі магчымасцямі, вядзе да падзякі, да ўслаўлення Бога.

Ці ёсць свабода большая, чым радасць сэрца, поўнага ўдзячнасці Богу за атрыманыя дары? Нават за сам факт, што мы можам казаць Яму "Ойча"! А яшчэ, свабодны чалавек – гэта той, хто дазваляе Богу весці сябе, з даверам прымае Яго планы і можа за ўсё дзякаваць.

### XXIV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мк 8, 27–35**

Езус са сваімі вучнямі пайшоў у вёскі Цэзарэі Філіпавай. Па дарозе Ён пытаўся ў вучняў сваіх, кажучы ім: "Кім людзі лічаць Мяне?". Яны адказвалі Яму: "Янам Хрысціцелем, другія – Іллёю, іншыя – адным з прарокаў". А Ён спытаўся ў іх: "А вы кім лічыце Мяне?". Пётр сказаў Яму ў адказ: "Ты – Хрыстос". І загадаў ім, каб нікому не казалі пра Яго.

І пачаў вучыць іх, што Сын Чалавечы павінен шмат выцерпець і быць адкінутым старэйшымі, першасвятарамі і кніжнікамі, і быць забітым, і на трэці дзень уваскрэснуць. І казаў пра гэта адкрыта. А Пётр, адвёўшы Яго ў бок, пачаў дакараць Яго. Ён жа, павярнуўшыся і паглядзеўшы на сваіх вучняў, дакарыў Пятра, сказаўшы: "Адыдзі ад Мяне, сатана, бо ты не пра Божае думаеш, а пра чалавечае". І, паклікаўшы натоўп разам з вучнямі сваімі, сказаў ім: "Калі хто хоча ісці за Мною, няхай адрачэцца ад сябе, возьме крыж свой і ідзе за Мною. Бо той, хто хоча жыццё сваё ўратаваць, загубіць яго, а хто загубіць жыццё сваё дзеля Мяне і Евангелля, той уратуе яго".

## ЦАНА ЕВАНГЕЛЛЯ – ЖЫЦЦЁ

У апісанні падзей каля Цэзарэі Філіпавай адчуваецца ўнутранае напружанне. Ужо бачны элементы драмы, якая ў будучым павінна была ўзрушыць не толькі Апосталаў. Прадказаныя мука, смерць і ўваскрасенне ўзрушылі асновы ўсяго стварэння. Езус падрыхтоўвае сваіх блізкіх не толькі да віду паміраючага на крыжы Месіі, але і да праследаванняў, якія прыпадуць на лёс і Апосталаў, і ўсіх Яго паслядоўнікаў. Навучанне Евангеллю будзе мець акрэсленую цану. Уяўленні Пятра пра Месію сустрэліся з такім рашучым адказам, што ўжо не было ніякіх сумненняў: каб ісці за Езусам, трэба будзе заплаціць жыццём.

Але праследаванню і пакутніцтву будзе папярэднічаць адно асноўнае пытанне: хто такі Езус? Гэтае пытанне чуе кожны з нас. Кожны павінен даць сабе і свету належны адказ.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Добрая катэхеза – гэта навука добрага жыцця

**СЛОВА РЭДАКТАРА**
*Кс. Павел Салабуда*



Распачаўся чарговы навучальны год для дзяцей і моладзі, а таксама чарговы катэхетычны год у нашых касцёлах. Касцёл у Беларусі ўвесь час развіваецца, а таму і справа катэхізацыі не стаіць на месцы. Усё лепшыя і зручнейшыя ўмовы ў нашых катэхетычных класах, усё больш магчымасцей дапасавання гадзін заняткаў для катэхізуемых, а таксама больш рознага тыпу дапаможных матэрыялаў для катэхетаў. Вялікая колькасць свецкіх катэхетаў навучаецца ў катэхетычных інстытутах у Беларусі. А таму ўсё гатова, каб добра распачаць чарговы катэхетычны год. Але гэта яшчэ не ўсё. У гэтыя дні ў нашых касцёлах зачытваюцца лісты ксяндзоў біскупаў, якія заахвочваюць нас прымаць удзел у катэхізацыі: дзяцей і моладзь, дарослых і пажылых людзей, сем'і і розныя спецыялізаваныя групы. І менавіта гэта самае важнае – каб у катэхетычных класах былі мы, нашы дзеці і моладзь, што з'яўляюцца будучыняй Касцёла і краіны, маладыя сем'і і старэйшыя людзі, паколькі пазнаваць Бога можна на працягу ўсяго жыцця, не абмяжоўваючыся толькі пазнаннем асноўных праўд веры.

Перш за ўсё, варта сабе і сваім дзецям так скласці план заняткаў, каб у ім было месца таксама для навукі рэлігіі. На жаль, тлумачэнні тыпу "у майго дзіцяці зашмат школы ці іншых заняткаў" або "маё дзіця ўжо прыступіла да Першай Камуніі" вядуць нашых дзяцей да жыцця без сэнсу і мэты. Вельмі многія бацькі скардзяцца на розныя цяжкасці ў выхаванні маладога пакалення (а сёння гэта найперш інтэрнэт). Катэхеза, у сваю чаргу, з'яўляецца нібы прыжком з парашутам, які дапамагае бяспечна прызямліцца – дзеці і моладзь, якія прымаюць удзел у катэхезе, робяць менавіта такі бяспечны скок у далейшае жыццё. Таму мы павінны знайсці час і жаданне, каб каталіцкая адукацыя ў нашай краіне была на высокім узроўні.

Катэхізацыя датычыць не толькі маладога пакалення, але таксама старэйшых людзей, а асаблівым чынам нашых сямей. Буйнейшыя парафіі даюць вернікам магчымасць наведвання розных парафіяльных груп – г.зв. спецыялізаванае душпастарства – або проста ўдзелу ў катэхезе для дарослых. Калі ў Вашай парафіі не існуе такой групы, Вы можаце сабрацца разам з жадаючымі асобамі і папрасіць ксяндза пробашча арганізаваць такія сустрэчы. На жаль, праблемай з'яўляецца таксама ўпэўненасць у тым, што "дастаткова" катэхізацыі да Першай св. Камуніі. І многіх бацькоў здзіўляе факт, што пасля гэтай урачыстасці дзіця зноў павінна наведваць заняткі рэлігіі. Гэта ж усё роўна як скончыць толькі класы пачатковай школы. У такой сітуацыі трэба перш за ўсё катэхізаваць бацькоў, каб яны зразумелі гэта і змянілі свой стыль мыслення, каб добра паклапаціліся пра рэлігійнае выхаванне сваіх дзяцей.

Навука веры – гэта не толькі пацеры. Гэта пазнанне Хрыста, сяброўства з Ім. Але і на гэтым яшчэ не ўсё. Катэхеза вучыць кожнага з нас жыць у супольнасці Касцёла, а таксама быць адказным у сваім штодзённым жыцці. Менавіта дзякуючы катэхезе мы становімся добрымі грамадзянамі. Калі мы будзем памятаць пра гэта, наша краіна заўсёды будзе краінай хрысціянскай, краінай добрых і адказных людзей. А быць добрым хрысціянінам і сумленным грамадзянінам, як мне здаецца, – мара кожнага бацькі і маці, кожнага катэхета, кіраўніка дзяржавы і г.д.

**Добрая катэхеза – гэта навука добрага жыцця. Такая навука перш за ўсё павінна быць у нашых сем'ях, паколькі менавіта бацькі становяцца першымі катэхетамі для сваіх дзяцей. Хачу кожнаму ў гэтым новым катэхетычным годзе пажадаць, каб катэхеза была Евангеллем жыцця чалавека, жыцця з Хрыстом, добрага жыцця.**

# Германішкі

## ДЭКАНАТ Радунь

***Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі***



*Знешні выгляд святыні*

Вёска вядома з 1367 г., у 1411 г. – маёмасць вялікага князя Вітаўта, з 1539 г. – мястэчка, у XVI–XVIII стст. – маёнтак віленскага біскупства. У XIX ст. знаходзіцца ў Лідскім павеце Віленскай губерні як уладанне графаў Лефертаў, потым Гофманаў.

Згодна з мясцовым паданнем, касцёл пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы быў заснаваны тут яшчэ ў 1387 г., аднак на самой справе ў гэтым годзе вёска ўпершыню ўзгадваецца ў гістарычных крыніцах сярод паселішчаў, якія кароль Ягайла аддаў касцёлу святых Станіслава і Уладзіслава ў Вільні. Архіўныя матэрыялы пацвярджаюць заснаванне каталіцкай святыні ў Германішках каля 1452 г. паводле біскупскай фундацыі. Першапачаткова касцёл быў драўляным, чарговы драўляны будынак касцёла пабудавалі ў 1676 г. на сродкі віленскага біскупа Бжастоўскага. Тады святыня стаяла ў заходняй частцы вёскі, але пасля пажару 1880 г. вырашана было перанесці касцёльны пляц на ўсходнюю ўскраіну.



*Галоўны алтар*

Будаўніцтва новага касцёла, гэтым разам мураванага, пачалося ў 1886 г., магчыма паводле праекта губернскага архітэктара Полазава. У 1909 г. новазбудаваная святыня ў стылі неаготыкі была асвечана пад гістарычным тытулам Найсвяцейшай Тройцы.

Касцёл пабудаваны з бутавага каменю і цэглы з пяціграннай арыентаванай на ўсход апсідай, да якой з абодвух бакоў дабудаваны, верагодна, пазней, невялікія атынкаваныя закрыстыі. Над галоўным фасадам у 1905 г. была надбудавана васьмігранная вежа-званіца, завершаная спічаком. Святыня накрыта двухсхільным бляшаным дахам, над алтарнымі вальмамі якога знаходзіцца стромкая сігнатурка. У алтарную сцяну ўмуравана надмагільная пліта Стэфаніі Вансовіч (+1879), спадчына ад якой склала аснову сродкаў на будаўніцтва касцёла.

Інтэр'ер зальны, перакрыты плоскаю падшыўной дашчанай столлю, падлога з керамічных плітак. У святыні тры алтары. Галоўны тытульны алтар Найсвяцейшай Тройцы ілюзорна намаляваны на сцяне, бакавыя алтары (злева – Божай Міласэрнасці, дзе ў другім ярусе змешчаны абраз св. Францішка з Асізі, справа – Маці Божай Чанстахоўскай з абразом св. Юзафа ў другім ярусе) драўляныя, зробленыя разам з амбонай у 1885 г. у стылі неабарока і перанесеныя з былога драўлянага касцёла. Над уваходам зроблены хоры, дзе і сёння захоўваецца цікавы арган у стылі класіцызму, таксама з былога касцёла.

Касцёльны ўчастак абнесены атынкаваным мурам, галоўны ўваход пазначаны трохпралётнай брамай у стылі класіцызму. На тэрыторыі захавалася некалькі цікавых надмагілляў, сярод якіх вылучаецца каплічка Юліі Рэйкоўскай з роду Хлюдзінскіх (+1835). У XIX ст. на мясцовых парафіяльных могілках дзейнічала драўляная капліца, але пасля 1870 г. яе ўжо не існавала.

У час польскай улады колькасць вернікаў германішскай парафіі дасягала амаль 4000 чалавек. Але пры савецкай уладзе, у 1965 г., касцёл зачынілі, усё каштоўнае было разрабавана, аднак будынак не руйнавалі і не прыстасоўвалі для якіх-небудзь патрэб.

Адрадзілася парафія ў 1987 г. Касцёл быў асвечаны нанова 17 чэрвеня 2000 г. Дзейнічае і сёння, аднак статус помніка архітэктуры атрымаў адносна нядаўна.

# Дазвольце дзецям прыходзіць да Мяне

працяг са с. 1

Па словах папы Францішка, усе мы, хрысціяне, якія атрымалі веру, "павінны яе перадаваць, абвяшчаць яе сваім жыццём і словам". "Калі хтосьці сапраўды ведае Езуса Хрыста і верыць у Яго, зведвае Яго прысутнасць у жыцці і моц Яго ўваскрасення, ён не можа ўстрымацца ад перадачы іншым гэтага досведу. А калі сустракае непаразуменне або супярэчанне – ён паводзіць сябе так, як Езус падчас сваёй мукі: адказвае з любоўю і моцай праўды", – кажа папа Францішак. Таксама Святы Айцец падкрэслівае, што вера – гэта дар, які пачынаецца ад спаткання з Езусам, сапраўднай Асобай, а не якойсьці распыленай субстанцыяй, і вера ў Яго нараджаецца з сустрэчы, якая становіцца досведам. Таму дзеці павінны пазнаваць Хрыста, моладзь павінна ведаць Хрыста, а дарослыя павінны жыць Хрыстом.

На вялікі жаль, у Беларусі школа дае толькі веды, а місію выхавання здзяйсняе Касцёл. Безумоўна, усе прадметы, якія выкладаюцца ў школе, вельмі важныя, але з поўнай упэўненасцю можна казаць аб тым, што навука рэлігіі па сваім значэнні не саступае ніводнаму з іх, паколькі навучае таму, як быць сумленным чалавекам, як дапамагаць патрабуючым, як прабачаць, любіць бліжняга. І калі заданне школы – перадача ведаў і выхаванне сумленных і адказных грамадзян, то мэта катэхізацыі – удасканаленне маладога пакалення ў духоўным і маральным плане, прывіванне хрысціянскіх каштоўнасцей. Школа дае веды, а рэлігійнае навучанне – сапраўдную мудрасць.

Каб рэлігійнае навучанне было эфектыўным, прыкладаюцца ўсе намаганні, каб катэхізацыя была сістэматычнай і мела сувязь з жыццём, сакрамантамі і касцёльнай супольнасцю. Для здзяйснення гэтага, пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі была створана катэхетычная секцыя, за гады дзейнасці якой была падрыхтавана і зацверджана праграма па рэлігійным навучанні, пачынаючы ад дзіцячага садка і да 11-га класа. У падручніках прадугледжаны тэмы, адпаведныя ўзросту вучняў, якія спрыяюць сістэматычнаму навучанню рэлігіі і належнаму ўзрастанню ў веры. Таксама былі падрыхтаваны дыдактычныя матэрыялы для катэхетаў на кожны клас.

Яшчэ не забыліся тыя часы, калі ўвогуле нельга было гаварыць аб сістэматычнай катэхізацыі і евангелізацыі, бо не хапала касцёлаў і святароў, не было рэлігійнай літаратуры, а дзецям забаранялася хадзіць у касцёл. Катэхізацыяй у тыя цяжкія часы займаліся бацькі і дзяды. Яны вучылі маладое пакаленне так, як умелі і як маглі. Найбольш важным у гэтым працэсе было іх сведчанне малітвы і маральнага жыцця.

Дзіўна і незразумела, чаму сёння, калі існуюць усе ўмовы для навучання рэлігіі пры касцёлах, друкуецца шмат рэлігійнай і катэхетычнай літаратуры, многія бацькі не клапоцяцца аб духоўным выхаванні сваіх дзяцей, чаму тыя, хто даў дзіцяці жыццё, не спяшаюцца выхоўваць яго ў веры і любові.


Катэхеты прыкладаюць шмат намаганняў, каб заахвоціць дзяцей пазнаваць Бога


Дапаможныя матэрыялы для заняткаў па рэлігіі змяшчаюць розныя заданні: крыжаванкі, размалёўкі, арыгамі

**Бласлаўлёная Маці Тэрэза з Калькуты вельмі часта любіла паўтараць сваім сёстрам: "Ты можаш зрабіць тое, чаго я не магу. Я магу зрабіць тое, што не ўдаецца табе. Калі мы возьмемся за гэта разам, то атрымаецца вялікая і бласлаўлёная справа". Таму сёння вельмі важна, каб бацькі не забываліся пра абавязак маральнага і рэлігійнага выхавання сваіх дзяцей, а разам з Касцёлам садзейнічалі духоўнаму фарміраванню маладога пакалення.**

### *Каментарый сястры Іераміі Кулікоўскай*




Падручнікі даюць магчымасць разважаць Божае слова не толькі на катэхезе, але і дома

**Пачынаецца новы навучальны год, дзеці ідуць у школы, атрымліваюць падручнікі. Але кожны веруючы чалавек, каталік, не павінен забывацца аб тым, што дзіця, якое навучылася размаўляць, пісаць і чытаць, павінна пасцігаць таксама асновы рэлігіі, асновы нашай веры. Таму ўжо з дашкольнага ўзросту дзеці павінны хадзіць на заняткі рэлігіі. Гэта, канешне, абавязак бацькоў, а таксама бубуль і дзядуль – клапаціцца пра тое, каб дзіця наведвала такія заняткі. Існуюць спецыяльныя падручнікі, па якіх займаюцца дзеці. Яны дапасаваны да ўзросту дзіцяці:**

**"Езус мяне любіць"** – гэта катэхетычны падручнік для шасцігадовых дзяцей, мэта якога – абуджэнне ў маладых сэрцах веры, надзеі, любові. Дзякуючы заняткам дзеці пазнаюць Езуса і Яго вялікую любоў і будуць старацца безупынна ўзрастаць у ласцы ў Бога і людзей. Гэтая кніжка будзе карыснай для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту.

**"Езус – мой Бог і Пан"** – наступная кніга, адрасаваная сямігадовым дзецям. У ёй вельмі простым спосабам апавядаецца аб любові Бога да чалавека.

**"Прагну быць з Езусам"** – кніжка прызначана для дзяцей, якія рыхтуюцца да Першай святой Камуніі ў каталіцкім Касцёле. Укладальнікі пастараліся перадаць асноўныя праўды хрысціянскай веры даступным і цікавым для дзяцей спосабам.

**"Езу, прыйдзі да мяне"** – другая частка падручніка для падрыхтоўкі да Першай Камуніі.

***Але не трэба забываць, што катэхеза не заканчваецца падрыхтоўкай да Першай Камуніі. Пасля пачынаецца падрыхтоўка да сакраманту канфірмацыі, а старэйшая моладзь атрымлівае непасрэдную падрыхтоўку да сакраманту сужэнства.***

Такім чынам, дзеці і моладзь не толькі завучваюць пэўныя малітвы, але спасцігаюць асновы веры, напрыклад праўду пра стварэнне свету і чалавека, якія паўсталі з Божай любові, асноўную запаведзь, згодна з якой толькі Богу Жывому – Богу, які ЁСЦЬ, трэба аказваць выключную пашану і да т.п. Бо так, як існуюць правілы дарожнага руху, без ведання якіх мы не можам выходзіць на дарогу, існуюць і Божыя запаведзі, без выканання якіх нельга будзе ўвайсці ў Валадарства Божае.

***Таксама варта падкрэсліць, што акрамя прадугледжаных праграмай падручнікаў ёсць шмат дадатковай літаратуры на рэлігійную тэматыку. Бацькі, якія клапоцяцца пра тое, каб іх дзіця ўзрастала ў веры, пазнавала прынцыпы маральнасці і духоўнасці, ахвотна набываюць такога роду кнігі.***

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Кожны з нас можа задаць сабе пытанне: кім для мяне з'яўляецца Езус? Можа, гэта толькі словы, нейкая ідэя, толькі пэўная гістарычная постаць? Ці Ён на самой справе з'яўляецца той Асобай, якая мяне любіць, Тым, хто аддаў за мяне сваё жыццё і пілігрымуе са мной? Кім для цябе з'яўляецца Езус? Ці ты побач з Ім, ці стараешся пазнаць Яго ў Яго слове? Бо чым больш мы ў Ім трываем, тым больш узрастае жаданне, каб у Ім трываць. Няхай Панна Марыя дапаможа нам заўсёды "ісці" да Езуса, каб адчуць свабоду, якую Ён нам дае, і дазваляе нам ачысціць нашыя выбары ад асадку марнасці і страхаў.*

*"Анёл Пänскі" са Святым Айцом, 23.08.2015*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*У сакраманце хросту мы ўключыліся ў Хрыста і сталі членамі Касцёла. Сучасны свет таксама задае пытанне: ці можа быць з прыналежнасці да Касцёла штосьці добрае, бо і без веры ў Бога і Касцёла можна быць шчаслівым і чыніць дабро? Так, сапраўды можна! Але як часта гэтае дабро мы ацэньваем паводле нашых асабістых крытэрыяў! Тут трэба памятаць аб тым, што ўсім нам неабходна будзе стаць перад Богам, які будзе нас ацэньваць паводле сваіх, вельмі часта адрозных ад нашых, крытэрыяў. Таму прыналежнасць да Касцёла павінна быць крытэрыем нашай веры.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай на свята св. ап. Барталамея ў Налібоках*

### *Кс. бп Антоній Дзям'янка*



*Панна Марыя заўсёды паказвае на Сына і вучыць, каб мы рабілі тое, што Ён нам скажа – праз нашае сумленне, нашых бацькоў, хрысціянскіх настаўнікаў і выкладчыкаў, праз Божае слова, прачытанае дома і пачутае ў касцёле, праз сэрцы патрабуючых людзей, якія імкнуцца да праўды, любові і супакою, і мы павінны ўслухоўвацца ў голас Таго, які хоча, каб мы былі дасканалымі, як дасканалы наш Айцец у небе.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасцей у дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Палесся ў Лагішыне*




◆ *Сірыйскія святары заклікалі вернікаў да малітвы за заложнікаў групоўкі "Ісламская дзяржава". Нядаўна паблізу горада Хомс злачынцамі было схоплена больш за 200 чалавек, 160 з якіх– хрысціяне. Жыхары краіны вельмі напалоханы. Многія задумваюцца аб тым, каб перабрацца ў больш бяспечныя гарады ці нават у іншыя краіны. Каталіцкая і праваслаўная Цэрквы Сірыі спрабуюць дапамагчы знайсці заложнікаў і супакоіць насельніцтва. Член Сірыйскай каталіцкай супольнасці Мар Мусы айцец Джыхад Юсуф выказаў надзею, што праз малітоўную падтрымку вернікаў сэрцы злачынцаў павінны напоўніцца міласэрнасцю.*

◆ *У пілігрымцы да Святых варот ватыканскай базілікі вернікі будуць прытрымлівацца спецыяльнага пешаходнага маршруту. Пра гэта заявіў арганізацыйны сакратарыят пазачарговага Юбілею Міласэрнасці. Маршрут будзе праходзіць ад Замка святога Анёла ўздоўж вуліцы Віа-дэла-Канчыліацыонэ, перасякаючы плошчы Пія XII і святога Пятра. Заяўкі на паломніцтва да Святых варот будуць прымацца праз інтэрнэт пачынаючы з кастрычніка. Па словах арганізатараў, такая сістэма дазволіць вернікам звесці чаканне да мінімуму і забяспечыць ім падчас пешага паломніцтва да Святых варот атмасферу малітвы і засяроджанасці.*

◆ *У кастрычніку, адначасова з Сінодам па пытаннях сям'і, Папскі грыгарыянскі ўніверсітэт урачыста ўводзіць "Дыплом практычнага тэолага па справах сям'і". Гэта новы адукацыйны курс, разлічаны на 25 студэнтаў. Ён распрацаваны спецыяльна для настаўнікаў і спецыялістаў у галіне шлюбу і сям'і. На працягу года курс прапануе разгледзець інстытут сям'і з розных бакоў: духоўнага, сацыяльнага, багаслоўскага і антрапалагічнага. Заняткі будуць праводзіць спецыялісты, якія прадставяць студэнтам сямейныя рэаліі, прааналізаваныя з дапамогай міждысцыплінарных метадаў і заснаваныя на вопыце сем'яў вернікаў.*

◆ *Дзяржаўны сакратарыят Ватыкана апублікаваў статыстычныя даныя за 2014 год. У кнізе, выдадзенай "Libreria Editrice Vaticana", змяшчаецца мноства цікавых даных за мінулы год. Паводле іх, Кангрэгацыя па кананізацыі вяла расследаванне 58 выпадкаў ацалення, неабходных для распачацця працэсу вынясення да хвалы алтара. Папа Францішак пацвердзіў 17 дэкрэтаў аб цудоўным аздараўленні, прадстаўленых Кангрэгацыяй. У мінулым навучальным годзе 1086 чалавек з 54 краін свету атрымалі доступ да сакрэтных архіваў Ватыкана. Папская Рада "Cor Unum", якая займаецца справамі дабрачыннасці ад імя Святога Айца, ахвяравала на дапамогу ахвярам розных катастроф 600 000 даляраў. На розныя дабрачынныя праекты ёй было пералічана 1,6 мільёна даляраў.*

◆ *Больш за 200 статыстаў шукае Асацыяцыя "Рафаэль", якая з'яўляецца прадзюсарам фільма "Бог у Кракаве". Запіс сцэн з ахвотнымі працягнецца да 11 верасня ўключна. "Гэта будзе фільм пра тое, што Бог дзейнічае і любіць чалавека такім, які ён ёсць, што Ён ніколі не мучыцца ў аказанні міласэрнасці", – расказвае Дарыюш Рэгуцкі, рэжысёр і аўтар сцэнарыя фільма. Падрабязная інфармацыя даступна на інтэрнэт-старонцы www.statysci-krakow.bogwkrakowie.pl.*

*Ватыканскае радыё; ekai.pl; credo-ua.org; katolik.ru*

***Ангеліна Пакачайла***

# З Маці Божай Тракельскай – у новы навучальны год

**Пятая юбілейная сустрэча душпастарства настаўнікаў, выкладчыкаў і выхавацеляў адбылася сёлета ў Тракелях. Маці Божая Тракельская з усёй моцаю мацярынскай любові дазволіла тым, хто сёння фарміруе маладое пакаленне, тым, хто больш за іншых адказвае за наша будучае, сустрэцца ў гэтым месцы, дзе Яна, наша Каралева, здзяйсняла цуды. Здзяйсняла, каб мы моцна ў Яе паверылі, каб прыходзілі і прасілі, бо праз Яе заступніцтва можна выпрасіць шматлікія ласкі ў нашага Збаўцы Езуса Хрыста.**



*Св. Імшу ў межах сустрэчы ўзначаліў кс. бп Юзаф Станеўскі*

Сёлетняя сустрэча сабрала з усіх куткоў Гродзенскай дыяцэзіі тых аднадумцаў, хто перш за ўсё прыехаў падзякаваць за ўсё тое, што было ў мінулым навучальным годзе, за поспехі і здабыткі, за радасць і смутак, за ўзлёты і падзенні. Усе мы цудоўна разумеем, што ў нашым жыцці не бывае нічога выпадковага, што ўсё тое, што сустракаецца на шляху выхавання маладога пакалення, звязана з Божай воляй. Каму як не настаўнікам варта яшчэ і яшчэ раз звяртацца да Той, якая выслухае і абавязкова дапаможа. Таму і сабралася ўся педагагічная супольнасць тут, каб прасіць у Божай Маці аб Яе няспыннай апецы, аб дапамозе ў выхаванні падрастаючага пакалення ў такі няпросты час, аб вырашэнні тых складаных задач, з якімі так часта даводзіцца сутыкацца, працуючы з моладдзю. Сёння ўвесь свет ахутаны спакусамі. Не абмінаюць яны і маладое пакаленне. Як дапамагчы ім разабрацца ў тым, што добрае, а што злое, што варта ўвагі, а што трэба адкінуць, што каштоўнае, а што нізкапробнае. На гэта накіравана праца настаўніка, складаная, але такая неабходная.

Праграма спаткання сапраўды дазволіла ўсім прысутным акунуцца ў незвычайную атмасферу еднасці, супакою, цішыні, любові. Тут сабралася сям'я настаўнікаў-аднадумцаў, якія не толькі імкнуцца перадаваць веды маладому пакаленню, а перш за ўсё выхоўваць яго на аснове сапраўдных хрысціянскіх каштоўнасцей. Напачатку сустрэчы ўсіх прысутных прывітаў кіраўнік душпастарства кс. Антоній Грэмза, які адзначыў, што праца настаўніка патрабуе ахвярнасці, цярпення і здароўя. Таму і сабраліся мы тут, каб прасіць у Маці Божай Тракельскай благаслаўлення на цэлы навучальны год. Прывітальнае слова скіраваў да ўсіх таксама дапаможны біскуп Юзаф Станеўскі, які сказаў, што гэта вельмі добры знак таго, што мы сабраліся тут, у школе Марыі, каб вучыцца ад Яе, задаць Ёй пытанні і разам шукаць адказы на іх. І вельмі важна, каб не толькі прысутныя тут настаўнікі, але і ўсе тыя, хто мае дачыненне да адукацыі, былі ахоплены малітвай на распачацце навучальнага года.

Пасля адбылася канферэнцыя на тэму "Пакліканне настаўніка ў адносінах да Бога, сябе і грамадства", якую правёў кс. Антоній Грэмза. У сваім выступленні ён звярнуў увагу на тое, што ў ацэнцы Касцёла ёсць розныя тыпы настаўнікаў: настаўнік-рэаліст, настаўнік-педагог, настаўнік-выхавацель, настаўнік-сведка, настаўнік-тэрапеўт, настаўнік-майстар, настаўнік-кіраўнік. Вельмі важна ўмець спалучаць у сабе ўсе гэтыя рысы, але перш за ўсё сучасны настаўнік павінен быць адкрытым і сумленным, паказваць якасці, годныя для пераймання, умець аптымістычна глядзець у будучыню.

Падчас адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, якую арганізавала настаўніцкая супольнасць са Шчучына разам з а. Вітольдам, словы просьбы і падзякі былі скіраваны да Езуса Хрыста, нашага Настаўніка, які з'яўляецца крыніцай радасці, натхнення. Толькі моцная вера ў Яго дазваляе нам чэрпаць тыя сілы, якія неабходны сапраўднаму настаўніку. Таму і звяртаемся мы да жывога ў Найсвяцейшым Сакраманце Езуса, каб уваходзіў у нашы сэрцы, каб дапамагаў пераадольваць слабасці і недахопы і выхоўваць моладзь у адпаведнасці з Божымі наказамі.

Кульмінацыйным момантам сустрэчы стала святая Імша, якую цэлебраваў кс. біскуп Юзаф Станеўскі. У гаміліі іерарх адзначыў, што настаўнікі – гэта не толькі тыя, хто перадае веды па розных дысцыплінах. Гэта перш за ўсё асобы, якія выхоўваюць маладое пакаленне, вучаць, як жыць, як рабіць правільны выбар. І гэта вельмі адказна, бо ад іх працы шмат у чым залежыць наша будучае. Яны, як і Ян Хрысціцель, павінны пратоптваць сцежкі і весці за сабой. Як адзначыў біскуп, настаўнікі сабраліся тут не для таго, каб стаць мудрэйшымі ў сваіх прадметах, а каб вучыцца ў Бога і на сваім месцы працы быць перш за ўсё чалавекам, які мае аўтарытэт, вучыць жыць і з'яўляцца прыкладам для сваіх вучняў. Вельмі важна, каб настаўнік прадстаўляў свет такім, якім хацеў стварыць яго Бог, дзе ўсе жывуць у згодзе і міры. Напрыканцы кс. біскуп пажадаў усім настаўнікам, каб яны імкнуліся да лепшага, каб будавалі сапраўдны Божы свет. Таму просім нашу Маці, каб дапамагла вытрымаць у веры, быць праўдзівымі, вучыць той міласці, згодзе, якую нёс людзям наш Збаўца.

Пасля перапынку на абед перад цудоўным абразом настаўніцкая сям'я прадставіла акт аддання навучальнага года пад абарону Божай Маці. Усе прысутныя настаўнікі аддалі ў Яе распараджэнне моладзь, вучняў, студэнтаў, бацькоў, педагогаў, выхавацеляў, кіраўнікоў школ і папрасілі, каб пад Яе апекай школа стала той супольнасцю, дзе ўсе будуць узрастаць да паўнаты чалавечнасці паводле ўзору Езуса Хрыста.

Цікавай і павучальнай аказалася і праца ў арганізаваных чатырох групах, дзе разглядаліся аспекты працы настаўніка: праца як дар, як сустрэча, як шлях, як будаванне. Развагі па пастаўленых пытаннях не толькі дазволілі сумесна шукаць адказы на іх, але і перш за ўсё зблізіць настаўнікаў, даць зразумець, што падчас такіх сустрэч шліфуецца асоба сапраўднага педагога-хрысціяніна.

Сёлетняе спатканне сапраўды незвычайнае. І не толькі таму, што яно адбылося ў пачатку навучальнага года, а не напрыканцы яго, як гэта было раней. Маці Божая Тракельская здзейсніла чарговы цуд, бо хвіліны, праведзеныя ў гэтым санктуарыі, сталі бальзамам на сэрца кожнаму настаўніку. Гэта хвіліны сапраўднай радасці, душэўнай раўнавагі, сямейнай утульнасці, хвіліны, праведзеныя разам з нашай Нябеснай Заступніцай у роздуме над тым, хто мы і ў чым наша місія.

**Марыя, наша Маці, мы ўдзячны Табе, што дала магчымасць пачаць новы навучальны год разам з Табой, адкрыць свае сэрцы, даверыць свае планы і задумы і разам з Табой вучыць і выхоўваць маладое пакаленне так, як гэта рабіў вышэйшы Настаўнік – Езус Хрыстус. Вядзі нас за сабой, абераган і дапамагай у адказнай справе выхавання маладога пакалення.**

***Алена Садоўская***

**P.S. Душпастарства настаўнікаў, выкладчыкаў і выхавацеляў бясконца ўдзячна ўсім тым, хто прыняў удзел у гэтым спатканні: кс. біскупу Юзафу Станеўскаму не толькі за скіраванае да нас Божае слова, але і за прыклад сапраўднай веры, добразычлівасць, адкрытасць сэрца, сціпласць, за тое, што знайшоў час правесці з намі цэлы дзень; кусташу санктуарыя кс. Аляксандру Рудзевічу за гасцінны прыём, за смачны пачастунак; кс. Вітольду Пяцельчыцу, а. Андрэю Агелю, кс. Андрэю Роўбу і, безумоўна, кіраўніку душпастарства кс. Антонію за арганізацыю такой незабыўнай сустрэчы.**




*Выкладчыкі і выхавацелі сабраліся каля трона Маці Божай, каб у супольнай малітве папрасіць аб патрэбных ласках*

# Пяць спосабаў, як добра перажыць св. Імшу

**Мы часта вінавацім сябе ў тым, што не зусім уважліва ўдзельнічалі ў святой Імшы. Мы гаворым пра гэта на споведзі і, паабяцаўшы выправіцца, у наступны раз прыкладаем усе намаганні, каб засяродзіцца. І што? І нічога. Нашы думкі, на жаль, нас не слухаюцца. Вось некалькі падказак для таго, каб "палепшыць" наш удзел у Эўхарыстыі.**

## 1 Прачытай дома літургічныя чытанні.

Напэўна, табе даводзілася трапляць у сітуацыю, калі, адказваючы на воклiч "Гэта Слова Пана", ты раптам усведамляў, што паняцця не маеш, пра што было Евангелле. Гэтага можна пазбегнуць. Дастаткова дома прачытаць сённяшнія чытанні. Яны даступны ў сетцы і ў выглядзе бясплатных рассылак на электронную пошту.

## 2 Прыйдзі за дзесяць хвілін да пачатку Імшы.

Збіраючыся на важную падзею, канцэрт ці спектакль, мы стараемся прыйсці трохі загадзя. Па-першае, каб не прапусціць нічога важнага, а па-другое, каб не перашкаджаць астатнім, прыходзячы ў апошні момант. Чаму Імша павінна быць выключэннем? Акрамя таго, хвіліна цішыні і засяроджання можа стаць вырашальнай для перажывання ўсёй літургіі.

## 3 Памаліся аб тым, што важна для цябе.

У структуры Імшы ёсць моманты цішыні, якія можна выкарыстоўваць для асабістых малітоўных зваротаў. Яны ёсць у акце пакаяння, пасля прызыву "памолімся", у момантце прынашэння дароў, перамянення, а таксама пасля Камуніі. Нашыя просьбы могуць быць заўсёды аднолькавымі або рознымі, але яны дазваляюць перажываць літургію "тут і цяпер".

## 4 Ужывай голас.

Гэта вельмі дапамагае. На Імшы галоўнае – не засяроджванне само па сабе, а свядомы ўдзел. Усвядомленае прагаворванне дапамагае думкам ахвотней ісці за тэкстам. Калі нешта адбываецца толькі ў нашай галаве і не знаходзіць выражэння ў словах ці жэстах, цяжка нават казаць пра ўдзел. Ну і, вядома, "хто спявае, той моліцца двойчы".

## 5 Ідзі да Камуніі.

Калі мы прыходзім на ўрачыстці прыём, то звычайна толькі ў адным выпадку нічога не ядзім – калі мы хворыя. Рэдка хто ўспамінае такія прыёмы як удачныя. Можа, гэта добрая аналогія? Тым больш, што ад гэтай хваробы існуюць выдатныя лекі.


Святая Імша – гэта крыніца і вяршыня ўсяго хрысціянскага жыцця

Але не спавядайся падчас Імшы. І ўжо дакладна не плануй споведзь на час літургіі загадзя. Імша – не час для споведзі. Пакуль паспавядаешся, пройдзе большая частка Імшы. Калі на сумленні ёсць грэх, які не дазваляе прыступіць да Камуніі, спавядайся загадзя, каб нядзельная Імша стала для цябе святам, а не часам пакаяння. Калі ты стала прыступаеш да Камуніі і рэгулярна спавядаешся, то тым больш ты не павінен спалучаць два гэтыя сакраманты.

**Літургія – гэта рэальнасць, у якую мы можам уключыць усю нашу чалавечую прыроду. Часта мы пераацэньваем інтэлектуальны аспект, забываючыся пра тое, што ў нас ёсць яшчэ і цела. Але парадаксальна: паглыбленне нашай свядомасці можа паспрыяць таму, што мы больш актыўна пачнём удзельнічаць у літургіі. Таму звычайна важна разумець, у чым жа мы ўдзельнічаем і які гэта мае сэнс.**

*А. Марэк Ройшык OP*




# Бог вучыць адкрытасці на людзей



*Сёння сваю гісторыю распавядае айцец Антоній Пажэцкі з Ордэна Братоў Меншых Канвентуальных.*

### Прыклад веры бацькоў

Нарадзіўся айцец Антоній у Гродне. У францішканскім касцёле атрымаў першыя сакраманты: быў ахрышчаны і праз 10 гадоў прыступіў да Першай святой Камуніі.

*"Мае бацькі жылі верай: гэта адчувалася. Я бачыў прыклад іх сумеснай малітвы. І хоць часта яны прыходзілі з працы стомленыя, усё роўна знаходзілі час, каб памаліцца. Рэгулярна прысутнічалі ў касцёле на Імшы. У нядзелю – нават размова не вялася. Стараліся прыйсці і ў будныя дні... Дзякуючы ім, атрымаў тое, што маю зараз".*

### Жаданне прамаўляць да людзей Божае слова

Айцец Антоній гадаваўся разам з трыма братамі і сястрой. Любіў спорт, наведваў розныя секцыі. Часта прыходзіў у касцёл. Прыслужваў пры алтары як міністрант.

*"Вельмі хацеў чытаць на Імшы Божае слова. Таму паставіў перад сабой мэту і самастойна вывучыў польскую мову".*

Перачытаў шмат рэлігійнай літаратуры, якая раней была ў большасці польскамоўная. Сярод кніг траплялася шмат асобнікаў, выдадзеных францішканцамі.

*"Адчуваў моцнае жаданне развівацца далей. Хацелася трымацца прыкладаў святога Максімільяна Кольбэ, які працаваў у францішканскім касцёле ў Гродне, святога Антонія Падуанскага, майго заступніка...".*

І паступова малады чалавек пранікся глыбокім і шчырым жаданнем служыць Богу. У свой час на яго станоўча паўплываў ксёндз прэлат Юзаф Трубовіч, які працаваў у парафіі.

*"Я бачыў яго стаўленне да малітвы, да выканання службы. Бачыў прыклад іншых святароў і хацеў зрабіць штосьці большае для духоўнага жыцця людзей. Прагнуў адпраўляць святую Імшу, каб прамаўляць да вернікаў Божае слова. Гэтае жаданне, як зерне, кінутае ў жыватворную глебу, паціху прарастала. Урэшце я зразумеў: Пан кліча мяне".*

Сумневаў на гэты конт не ўзнікала ніколі. Адзінае, хлопец раздумваў: быць дыяцэзіяльным святаром або ўступіць у манаскі ордэн. Пасля некаторых разважанняў малады чалавек вырашыў далучыцца да францішканцаў.

### Адкрытасць на людзей

Пасля школы трэба было канчаткова вызначыцца. Сябар прапанаваў паступаць у Акадэмію Міністэрства унутраных спраў. Але жаданне стаць святаром было мацнейшым, таму адразу пасля выпускных экзаменаў хлопец паступіў у ордэн францішканцаў.

*"Не хацелася адцягваць: адчувалася глыбіня паклікання".*

Спачатку была фармацыя, падрыхтоўка да пастулата, затым навіцыят. Увесь гэты час хлопец знаходзіўся ў Смардзэвіцах у Польшчы. Непасрэдна саму вучобу малады чалавек распачаў у семінарыі ў Лодзі.

Першы раз прыехаў дадому пасля двух гадоў адсутнасці. За гэты час з блізкімі амаль не кантактаваў. Бацькі атрымлівалі ад сына вестку ўсяго раз на месяц.

*"Гэты перыяд быў няпростым, але цікавым. Ён шмат чаму мяне навучыў, прымусіў глыбока задумацца над сваім далейшым жыццёвым шляхам".*

Хутка францішканская семінарыя адкрылася ў Пецярбургу. З'явілася магчымасць працягваць вучобу там.

*"Мы прыехалі ў Пецярбург у сярэдзіне восені. Умовы былі вельмі цяжкімі. Стары будынак, у якім некалі размяшчалася фабрыка, ужо некалькі гадоў пуставаў. Усё вакол было запоўнена непатрэбнымі металамі. Не было ацяплення. На працягу трох гадоў тапілі печку-буржуйку. Даводзілася спаць у абутку, цёплай куртцы і шапцы. Не было вады, не было нават вокнаў! Вось у такіх умовах мы пачыналі".*

Але сёння айцец Антоній дзякуе Богу за такі вопыт. Нягледзячы на цяжкія знешнія ўмовы, супольнасць была згуртаваная. Мела сілы і канкрэтныя задачы. Таму хутка пры кляштары была створана сталоўка. Туды прыходзілі дзеці з неабрабытных сем'яў, людзі, якія не мелі даха над галавой. Ім аказвалася простая пасільная дапамога.

*"Бог вучыў нас быць адкрытымі на людзей, якія да нас прыходзілі".*

Акрамя таго, трэба было вучыцца. На шчасце, праца ніяк не замінала інтэлектуальнаму развіццю.

*"Мы наведвалі адзіную ў Расіі Каталіцкую вышэйшую духоўную семінарыю «Марыя – Каралева Апосталаў», дзе выкладалі прафесары з розных краін свету. Для нас гэта было вялікім багаццем. Мы даведаліся пра Касцёл у Амерыцы, Канадзе, Германіі, Аргентыне, Італіі, Іспаніі і іншых краінах. Ды і сам Пецярбург пакінуў у душы добры адбітак: усё ж культурная сталіца Расіі...".*

### Праца ў парафіі

У 2000 годзе 17 верасня ў Гродне айцец Антоній склаў вечныя шлюбы. Праз год 14 кастрычніка ў Маскве адбылося яго святарскае пасвячэнне.

Пасля заканчэння семінарыі айцец Антоній застаўся працаваць у Пецярбургу. Быў адказным за будаўніцтва манастыра, касцёла і дабрачыннага цэнтра. Даводзіў да належнага стану распачатыя яшчэ раней будаўнічыя справы. Адказваў за супольнасць колькасцю каля 20 чалавек. Паспяваў кіраваць будоўляй і прысутнічаць на ўсіх малітвах.

*"Канешне, было няпроста. Але гэта такі багаты вопыт! Мабыць, на ўсё жыццё. Дзякую Богу".*

Пазней чатыры с палавай гады айцец Антоній вывучаў у Рыме хрысталогію. Пасля прыехаў у Беларусь.

*"Калі я пасля 10 гадоў вярнуўся на Радзіму, быў прыемна здзіўлены колькасцю нашых вернікаў. У Расіі такога не назіраў".*

Некаторы час айцец працаваў вікарыем у роднай парафіі ў Гродне. Зараз з'яўляецца настаяцелем кляштара францішканцаў і парафіі Маці Божай Анёльскай.

*"Мне вельмі падабаецца працаваць у парафіі, быць з людзьмі. Я з задавальненнем аказваю ім духоўную дапамогу праз споведзь, адпраўленне святой Імшы. У дадзены момант не бачу нейкіх звышнатуральных задач па рэалізацыі паклікання. Яно, мне здаецца, палягае на тым, каб імкнуцца сумленна выконваць свае абавязкі. У маім выпадку – як святара і настаяцеля. Гэта значыць, дзяліцца Божымі дарамі і весці людзей да вечнага жыцця".*

*Ангеліна Пакачайла*







### *Рэлігіі супраць шлюбаў паміж дзецьмі*

***У Мазамбіку адбыўся першы міжрэлігійны форум, мэтай якога было абмежаванне ў гэтай афрыканскай краіне з'явы заключэння шлюбаў паміж дзецьмі.***

*Сустрэча прайшла з удзелам 120-ці рэлігійных лідараў. Яго мэтай было наданне фармальнага выражэння дзеянням розных рэлігійных супольнасцей для выкаранення шлюбаў паміж дзецьмі.*

*Паводле рапарта UNICEF, у мінулым годзе ў Мазамбіку 48% дзяўчат выйшлі замуж да 18-гадовага ўзросту, а 18% – да 15-гадовага. З'ява заключэння шлюбаў паміж непаўналетнімі вядзе да цяжарнасці ў вельмі маладым узросце, што пагражае жыццю маці і дзіцяці.*




### *Дзяўчаты "рэкламуюць" пакліканне да манаства*

***Вялікі крызіс пакліканняў да кансэкраванага жыцця сярод жанчын стаў адной з прычын зніжэння жыццядзейнасці Касцёла ў Ірландыі. Група дзяўчат пад назвай "Rise of the Roses" ("Паўстанне Руж") вырашыла распаліць агонь пакліканняў сярод дзяўчат адпагодкаў.***

*Дзяўчаты з гэтай суполкі апошнія два месяцы падарожнічалі па ўсёй Ірландыі, арганізоўваючы сустрэчы і набажэнствы ў розных жаночых кляштарах. Моліячыся разам з манахінямі розных харызмаў, яны хацелі паказаць прыгажосць дарогі за Хрыстом.*




### *Бенедыкт XVI ахвяруе чырвоныя чаравікі на дабрачыннасць*

***Сваім "ахвяраваннем" Бенедыкт XVI дасць старт кампаніі пад дэвізам "Мой абутак робіць дабро!".***

*Вядома, што пара чырвоных скураных чаравікаў Папы на пенсіі будзе выкарыстана падчас дабрачыннай кампаніі ў канцы традыцыйных "Кольпінг-дзён" 20 верасня на сцэне Ноймаркт у Кёльне. Падчас яе жыхароў Кёльна заклічуць да збору 15 тысяч пар абутку. Кампанія стане часткай дабрачыннага праекта, адрасатам якога з'яўляецца каардынацыйны цэнтр для дзяцей і моладзі ўсіх культур і рэлігій на тэрыторыі Кёльнскай архідыяцэзіі.*

*Кінга Красіцкая*

## Рэкалекцыі II ступені руху "Святло-Жыццё" адбыліся ў Шчучыне

*Кожная ступень рэкалекцый Аазіса мае свой сэнс. Мэта рэкалекцый II ступені – перажыванне Exodus, ці Пасхі.*



Год таму некаторыя з удзельнікаў прынялі Круцыяту вызвалення чалавека – устрыманне ад алкаголю. Яны мелі час падзяліцца сведчаннем, як вытрывалі ў сваёй пастанове і які плён прынесла гэтая малітва. Некалькі чалавек прынялі рашэнне працягнуць Круцыяту, а некаторыя ўзялі на сябе гэтае абяцанне ўпершыню.

У праграму дня рэкалекцый уваходзілі ранішняя малітва, спеў, святая Імша, літургічная школа, біблійнае кола, разважанне над Божым словам і адарацыя. Усё гэта дазваляла сабраным з'яднацца як супольнасць. Таксама яны вучыліся яднацца з Езусам Хрыстом падчас танцаў і забаў.

## "Канікулы з Богам" для дзяцей і моладзі прайшлі ў Шчучыне

*Штогадовая сустрэча самых маладых парафіян на супольнай малітве, песнях, гульнях і танцах з'яднала каля паўтысячы чалавек.*




Сёлета канікулы ў парафіі св. Тэрэзы ад Езуса (Авільскай) у Шчучыне прайшлі з 16 па 23 жніўня і былі прысвечаны апякунцы парафіі з нагоды 500-годдзя з дня яе нараджэння. Кожны дзень старэйшая моладзь і выхавацелі рыхтавалі сцэнкі і пантамімы, якія дазвалялі наблізіць гледачам жыццё і справу, якую пакінула пасля сябе святая. Дэвізам адпачынку ў гэтым годзе сталі словы св. Тэрэзы: "Хопіць толькі Бога".

Па традыцыі дзень "Канікул з Богам" пачынаўся супольнай малітвай і спевам. Наступным этапам праграмы былі сустрэчы ў групах, арганізацыю якіх загадзя рыхтавала старэйшая моладзь.

Падчас сёлетніх "Канікул з Богам" адбыўся таксама канцэрт моладзевага гурта "OPEN" з Гродна.

## Бп Юзаф Станеўскі асвяціў крыжы для новай святыні

*23 жніўня ў парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай Маці Міласэрнасці (Аўгустовак) у Гродне дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі асвяціў крыжы, што будуць змешчаны на новай парафіяльнай святыні, якая будуецца.*



Звяртаючыся да парафіян, іерарх адзначыў: "Бачачы ваш запал і ахвярнасць у будаўніцтве парафіяльнага касцёла, цешачыся, што сярод вашых дамоў пачынае ўздымацца да неба прыгожы Божы дом, месца спаткання з Панам, разумеем, што гэтаму будынку патрэбны знак, Касцёлу і нам патрэбны знак, дзякуючы якому ўсё мае сэнс, і на якім Хрыстос Пан перамог смерць і д'ябла, выразіў найбольш дасканала любоў да чалавека. Гэта знак, якому некаторыя будуць супраціўляцца, але без якога не была б бачна наша годнасць і наша прыналежнасць да Божай Сям'і – Крыж нашага Пана Езуса Хрыста".

Біскуп дадаў, што крыж будзе для парафіян і іх дзяцей "знакам перамогі і моцы, даверу і надзеі, знакам, якім мы пазначаны ад нараджэння да спачынку на могілках, знакам любові да Бога".

## Айцы піяры адзначылі Дзень заступніцтва св. Юзафа Каласанса

*З нагоды дня ўспаміну святога, які пакінуў свой след у адукацыі і выхаванні бедных дзяцей і моладзі, айцы піяры правялі рэкалекцыі паклікання для хлопцаў з піярскіх парафій.*



Падчас дзён засяроджання, якія праводзіў а. Аляксандр Махнач SP, удзельнікі сканцэнтравалі сваю ўвагу не толькі на св. Юзафе, але і на падмурку кожнага святарскага паклікання – на Дванаццаці Апосталах, разважаючы над іх жыццём і шляхам за Хрыстом.

## Дзеці з Галынкі і Перстуні прыступілі да Першай святой Камуніі

*Першую св. Камунію ў парафіях Узвышэння Святога Крыжа і Зеставання Найсвяцейшай Панне Марыі ўдзяліў бп. Юзаф Станеўскі.*



Падчас Імшы дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі назваў дзяцей, што прыступілі да Першай Камуніі, "кветкамі надзеі".

Іерарх дадаў, што нягледзячы на пустыя пасля жніва палі, карацейшы дзень і адлятаючых птушак, што сведчыць аб пераменах і аб зборы працы людскіх рук, мы бачым кветкі надзеі парафій у Галынцы і Перстуні ў гэтых дзецях. Паводле слоў біскупа, іх радасць, белае адзенне, усмешкі, поўныя надзеі і любові, спявіты верай, напаўняюць нас упэўненасцю, што Касцёл дынамічны і што Пан корміць нас хлебам у належны час.

На заканчэнне біскуп асвяціў ружанцы і перадаў дзецям абразкі Святой Сям'і з Назарэта з малітвай аб благаслаўленні для сям'і, заахвоціўшы дзяцей кожны дзень разам з бацькамі маліцца за свае сем'і і ўсе сем'і Беларусі.

## АНОНСЫ

**Рэкалекцыйныя сустрэчы, якія ўзначаліць кс. Ян Рэчэк, вядомы рэкалекцыяніст, спаведнік, які многія гады служыць заступніцкай малітвай, аўтар кнігі "Дазволь Езусу змяніць тваё жыццё"**




***Парафія Узвышэння Святога Крыжа ў Макараўцах***

**09.09.2015**

10.00 – св. Імша
19.00 – св. Імша

**10.09.2015**

10.00 – св. Імша, адарацыя з заступніцкай малітвай
19.00 – св. Імша, адарацыя з заступніцкай малітвай

***Парафія Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Вярэйках***

**11.09.2015**

10.00 – св. Імша, канферэнцыя
19.00 – св. Імша, адарацыя з заступніцкай малітвай

**12.09.2015**

11.00 – адпуставая св. Імша

***Парафія Найсвяцейшай Тройцы ў Росі***

**12.09.2015**

15.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці, канферэнцыя
17.00 – споведзь
18.00 – св. Імша, адарацыя з заступніцкай малітвай

**3.09.2015**

10.00 – парафіяльная св. Імша
12.00 – канферэнцыя
13.00 – абедзенны перапынак
14.00 – рэкалекцыйная св. Імша
15.00 – адарацыя з заступніцкай малітвай

## У Слоніме пройдзе турнір па футболе памяці св. Яна Паўла II

**У 11-ы раз у парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі пройдзе турнір па футболе, прысвечаны памяці св. Яна Паўла II. Да ўдзелу ў турніры запрашаюцца каманды з Рымска-каталіцкіх парафій з усёй Беларусі.**

Узрост гульцоў – ад 17 да 30 гадоў. Максімальная колькасць удзельнікаў ад адной парафіі не павінна перавышаць 10 чалавек.

Падчас гульні на полі можа знаходзіцца 4 палявых гульца і адзін галкіпер. Замены магчымы ў неабмежаванай колькасці. Гульня пройдзе па сістэме: два таймы па 10 хвілін. Жараб'ёўка падзеліць усе каманды на дзве групы.

У заяўцы кожнай каманды можа знаходзіцца толькі адзін футбаліст прафесіянал – футбаліст ва ўзросце да 30 гадоў, які гуляе ў лігах Беларусі па футболе (вышэйшая ліга (дублюючы склад), 1-я ліга, 2-я ліга, чэмпіянат вобласці) або міні-футболе (вышэйшая ліга, 1-я ліга, чэмпіянат вобласці).

За невыкананне патрабаванняў камандзе будзе залічана тэхнічная параза 5:0. Калі парушэнні будуць фіксавацца і ў наступных гульнях, то ў наступных турнірах каманда будзе дыскваліфікавана.

Усе матчы пройдуць на полі са штучным пакрыццём стадыёна "Белтрансгаз" (чатыры пляцоўкі 20x40 м). Удзельнікі турніру на час спаборніцтваў будуць забяспечаны харчаваннем, таксама прадугледжана спартыўна-забаўляльная праграма.

**Увага! Для рэгістрацыі кожная каманда павінна запоўніць заяўку ў электронным выглядзе і да 13 верасня выслаць яе на адрас арганізатараў: a-malafei@mail.ru.**

*Падчас непасрэднай рэгістрацыі ў дзень спаборніцтваў кожны ўдзельнік каманды павінен мець пры сабе пашпарт або яго ксеракопію.*

***Тэлефон для даведак: (+37529) 319-54-65 Velcom, (+37533) 624-35-22 MTS.***

*Кс. Артур Малафей, арганізатар турніру*

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Ці будуць Вашы дзеці хадзіць на заняткі рэлігіі ў гэтым навучальным годзе?***




*З 1 верасня пачынаецца новы навучальны, а таксама новы катэхетычны год для дзяцей і моладзі. Чарговае пытанне ў нашым апытанні дае магчымасць убачыць, якія планы маюць бацькі адносна катэхізацыі сваіх дзяцей. Найбольш рэспандэнтаў прагаласавала за тое, што іх дзеці пойдуць да Першай св. Камуніі, а таксама, што маладыя людзі пасля канфірмацыі далей будуць хадзіць на катэхезу. Ёсць таксама бацькі, якія плануюць запісаць сваіх дзяцей на заняткі рэлігіі перад канфірмацыяй.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Катэхізацыяй можа быць агорнуты кожны чалавек, ад дзяцінства ажно да старасці, паколькі пазнаваць Хрыста можна заўсёды. Варта ўсвядоміць сабе той факт, што мы павінны клапаціцца пра рэлігійнае выхаванне сваё і сваіх дзяцей. Яно становіцца надзейным фундаментам нашай штодзённасці. Чалавек, сустракаючыся з Хрыстом на занятках рэлігіі, выходзіць поўны веры і надзеі на лепшае жыццё, жыццё з Богам. Катэхеза для кожнага з нас з'яўляецца ўказальнікам добрага жыцця. Заахвочваю Вас прачытаць маё сённяшняе разважанне на гэтую тэму, а таксама галоўны артыкул нашай газеты на тэму катэхізацыі. Варта знайсці час і прысвяціць яго на сустрэчу з Хрыстом на рэлігіі.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**9 верасня 1959 г.** – кс. Часлаў Дабулевіч, *проб. Нача;*
**12 верасня 1943 г.** – кс. Раман Місевіч, *проб. Трабы;*
**13 верасня 2004 г.** – кс. прэлат Ян Граеўскі, *Замбраў, праф. Гродзенскай ВДС;*
**17 верасня 1963 г.** – кс. прэлат Ігнацый Альшанскі, *проб. Жалудок;*
**17 верасня 2003 г.** – кс. Антоній Юсель, *проб. Граўжышкі;*
**19 верасня 1939 г.** – кс. Антоній Твароўскі, *проб. Юрацішкі.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




*Хвала Хрысту!*

*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі “На скрыжаванні”. У сувязі з пачаткам навучальнага года прапаную паразважаць пра шырокія магчымасці, неабходнасць атрымання новых ведаў і гібкасць чалавечага розуму. З кнігі месяца даведаемся пра працэс абнаўлення, якія адбываецца ў галаве, а праз песню месяца паспрабуем натхніцца на вялікія справы.*

*Наперад з Богам!*



*Ангеліна Пакачайла*

# Правесці рэвізію на паліцы кампетэнцый

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ:**
***“Нядобра душы без ведаў, і хто спяшаецца нагамі, спатыкаецца” (Мдр 19, 2)***

Веды ўпрыгожваюць чалавека, яны з’яўляюцца велізарнай стваральнай сілай. Людзі, якія імкнуцца шмат ведаць, як правіла, устрымліваюцца ад неабдуманых крокаў і памыляюцца радзей як у свецкім жыцці, так і ў духоўным.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА:**
***каб пашыраліся магчымасці адукацыі і працы для ўсіх маладых людзей***

Маладосць – гэта час пошуку свайго месца ў свеце. Іншы раз гэты пошук бывае доўгі і цярністы. Папа Францішак заклікае вернікаў памаліцца ў інтэнцыі пашырэння ў свеце магчымасцей адукацыі і працы для моладзі. Менавіта праз паляпшэнне ўмоў для самарэалізацыі маладыя людзі хутчэй знойдуць сябе і будуць прыносіць карысць грамадству і Касцёлу.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: *веды***

Кожны з нас мае за плячыма нейкі запас ведаў, які будзе выкарыстоўваць у жыцці. Хтосьці не бачыць межаў у спазнанні нечага новага, а хтосьці спыняецца на дасягнутым. Варта паразважаць, ці не адчуваем мы сябе бездапаможнымі, ці хапае кожнаму з нас ведаў, каб ісці па жыцці ўпэўнена?

**МЭТА МЕСЯЦА: *атрымаць новыя веды***

Веды дазваляюць чалавеку адрозніць праўду ад хлусні, дапамагаюць арыентавацца ў свеце хаоса. У спалучэнні з верай веды робяць асобу мудрай. Чым больш у чалавека ведаў і ўменняў, тым больш карысці ён зможа прынесці Богу і людзям.

**СПРАВА МЕСЯЦА: *правесці рэвізію на паліцы кампетэнцый***

Прыйшоў час паразважаць, якія веды выкарыстоўваюцца намі ў жыцці, а якія дагэтуль не былі запатрабаваны. Неактуальныя кампетэнцыі трэба без шкадавання адсоўваць на самыя высокія паліцы, пакідаючы пры гэтым зручнае месца для новых ведаў. Умееш рабіць фокусы? Прамаўляць скарагаворкі? Усё ж такі карысней было б навучыцца гатаваць або плаваць. Ідэальна – выкарыстоўваць свае ўменні на славу Бога. Такім чынам, умеючы гатаваць ежу, можна працаваць валанцёрам. Здольнасць жа трымацца на вадзе можа спатрэбіцца, каб некалі выратаваць чыёсьці жыццё.

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА: *“Падбадзёрваючая”, “Божая кароўка”***

Сапраўдны хрысціянін не маркоціцца: ён упэўнены і вясёлы, гатовы дзяліцца сваёй радасцю з іншымі. Калі камусьці з Вас не хапае запалу, раю паслухаць песню “Падбадзёрваючая”. Выканаўцы пераконваюць, што справы ідуць угору, калі давяраеш Богу. Заклікаюць падбадзёрваць сябе з ранку і штодня казаць ворагу на злосць: “я змагу!”.

**КНІГА МЕСЯЦА: *“Творчы розум”, Ульф Экман***

З кнігі Вы даведаецеся, як распараджацца сваім розумам і што перашкаджае яго абнаўленню. “Бог хоча, каб вы мелі поспех”, – заўважае ў пачатку аўтар. Ён запэўнівае, што ў Бога для людзей добрыя планы, ёсць будучыня і надзея. Усявышні стварыў чалавека па сваім вобразе і надзяліў яго творчым розумам. Але каб умела ім карыстацца, асоба павінна прайсці працэс абнаўлення. Кніга дапаможа ахвотным у гэтай нялёгкай справе.




**АСОБА МЕСЯЦА:**
***бласлаўлёная Браніслава***



Нарадзілася Браніслава каля 1200 года ў Камені-Слёнскім. Паходзіць з сям’і Адрованж. Сваячка святога Яцэка і бласлаўлёнага Чэслава.

Дзяўчына заўсёды адрознівалася глыбокім духоўным жыццём. Ва ўзросце 16 гадоў уступіла ў жаночы манаскі ордэн нарбертанак у Кракаве.

Бог адарыў яе дарам экстазу і бачанняў. Аднойчы Браніслава глядзела ў накірунку кляштара дамініканцаў і ўбачыла анёлаў і Маці Божую, якая вяла ў неба душу святога Яцэка. Калі яна прыйшла ў кляштар, то сустрэлася там з братамі, якія займаліся падрыхтоўкай пахавання Яцэка.

У 1241 годзе, падчас нападу татар на Кракаў, Браніслава разам з іншымі сёстрамі хавалася ў ваколіцах Бяляная. З таго часу мясцовасць празвалі Паненскімі скаламі. З жыццём Браніславы таксама звязаны ўзгорак Сікорнік, куды яна часта прыходзіла на малітву. Памерла там жа 29 жніўня 1259 года. Пазней на тым месцы была пабудавана невялікая капліца.

Заступніцтву і апецы бласлаўлёнай Браніславы прыпісваюць выратаванне ад чумы раёна Звежынец у 1707 годзе. У 1839 годзе папа Рыгор XVI залічыў яе да ліку бласлаўлёных. Дзень яе памяці ў каталіцкім Касцёле – 1 верасня.

***Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў верасні?***
*Бл. Браніслава (1 верасня), св. Севярын (2 верасня), св. Разалія (4 верасня), св. Рэгіна (7 верасня), св. Пётр (9 верасня), св. Яўгенія (13 верасня), св. Станіслаў (18 верасня), св. Уладзіслаў (25 верасня), св. Тэрэза (26 верасня), св. Францішак (30 верасня).*

*Цяпер песню і кнігу месяца можна спампаваць на старонцы “Слова Жыцця” ў Facebook па адрасе facebook.com/slowo.grodnensis.by. Станем бліжэй адзін да аднаго! Усе заўвагі і пажаданні дасылайце на паштовую скрыню рэдакцыі або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*

## Пытанне – адказ

***Вітаю! Бачыў, што прапануеце ў рубрыцы “На скрыжаванні” розныя кнігі. Можа, ведаеце, што добрага і адначасова цікавага можна прапанаваць моладзі ва ўзросце прыкладна 13-16 гадоў?*** *Павел.*

*Вітаю, Павел.*

*Маладыя людзі ва ўзросце 13-16 гадоў перажываюць даволі цяжкі пераход з дзяцінства ў дарослае жыццё. Яны ўвесь час імкнуцца да незалежнасці, жадаючы знайсці сваё месца ў свеце. Каб не згубіцца на прасторах жыцця, прапаную кнігі* ***“Даведнік па лабірынтах маладосці”*** *Юзафа Аўгустына SJ і* ***“Моладзь задае пытанні”*** *Яна Палыгі SAC. У падлеткавым узросце бадай што самая папулярная тэма – гэта каханне. Раю да чытання кнігу* ***“Каханне. Як заставацца разам усё жыццё”*** *Валерыо Альбісэцці. Швейцарскі псіхааналітык разважае над унутраным і знешнім пошукам чалавека, адносінамі з будучым партнёрам і сапраўдным каханнем. Карысным будзе таксама выданне* ***“Валодаць розумам і пачуццямі”*** *Нарчыза Ірала. Рэкамендацыі кнігі дапамогуць маладым людзям лепш адпачываць, пераадольваць свае комплексы, пазбавіцца страхаў, дэпрэсій, раздражняльнасці. І каб не забывацца пра тое, што ўсё ў руках Бога, прапаную пазнаёміцца са сведчаннем Мацвея Іванова* ***“Сто адзінаццаць дзён з жыцця хворага на анкалогію”.*** *Кожны з нас можа жыць паўнавартасным жыццём, не думаючы пра заўтра. І часам толькі цяжкая хвароба прымушае пераасэнсаваць свае паводзіны. Варта цаніць жыццё і не распыляць яго на непатрэбныя рэчы.*




## Грех ли выбирать из двух зол меньшее?

*Из двух зол не следует выбирать ни одного: зло оскорбляет Бога, какого бы «размера» оно ни было, и обедняет и разрушает человека, будь оно «большим» или «меньшим». Это утверждение означает, что никакое зло, даже меньшее, не может быть предметом свободного выбора со стороны человека. Оно всегда будет грехом.*

*Приведем слова из энциклики папы Павла VI «Humanae vitae»: «Если иногда законно допустить нравственное зло, чтобы избежать большего зла или добиться большего добра, незаконно даже по серьезным причинам делать зло так, чтобы из него могло следовать добро (сравн.: Рим 3, 8). То есть нельзя совершать поступки, которые существенно нарушают нравственный порядок, потому что такое действие недостойно человеческой личности, даже когда имеется намерение содействовать личному, семейному или социальному благополучию».*

*Мы видим, что здесь речь идет о «допущении нравственного зла», а не о «выборе зла», то есть осознанном совершении зла, пусть даже «меньшего», для достижения некоего добра.*

*Приведем очень простой пример. Работодатель предупреждает подчиненного: либо ты крадешь, либо я тебя увольняю. Разумеется, хотя увольнение – меньшее зло, следует прекратить воровать, и это единственно правильный нравственный выбор.*

*Совершенно иначе выглядит ситуация, когда человек подвергается злу, и нет абсолютно никакого способа ему противостоять. В таком случае следует сделать всё возможное, чтобы защитить добро. Например, несколько столетий назад моряки, на которых нападали разбойники, для спасения жизни бросали товар в море. Таким образом они старались «спасти то, что можно спасти». Они бросали товар в море против своей воли, но если бы так не поступали, то лишились бы и товара, и жизни.*

*А вот более злободневный и более сложный пример: если беременная женщина тяжело заболевает, а беременность угрожает ее жизни, можно ли в данном случае прервать беременность, чтобы спасти жизнь женщины, особенно если она уже воспитывает других детей? Ответ здесь однозначный: нет, аборт никогда не допустим как «меньшее зло». Но если терапия, спасающая женщину от смерти, провоцирует неумышленную смерть нерожденного ребенка, то это и есть случай, когда нравственное зло «допускается». Но оно не является намеренным, оно является лишь следствием действий, направленных на благо излечения матери.*

*Вспомним слова Иисуса, обращенные к Иуде: «Что делаешь, делай скорее» (Ин 13, 27). Святой Фома Аквинский так толковал эту фразу: «Слова Господа – это не слова повелителя или советчика, потому что грех не может быть ни предметом предписания, ни совета Бога. Ибо написано: «Повеления Господа праведны, веселят сердце» (Пс 18, 9). Это слова Того, кто допускает (...). Но это также и слова отвращения из-за преступления предателя. Они означают, что в то время, как Он дарует благо, тот готовит Ему смерть: «Изобличу тебя и представлю пред глаза твои грехи твои» (Пс 49, 21).*

*Затем, это слова Того, кто жаждал свершить дело искупления, как говорил Августин. Но Он не имел намерения повелевать совершить преступление, а только предсказать его; не ожесточить того, у кого не было веры, но ускорить спасение верных. «Крещением должен Я креститься; и как Я томлюсь, пока сие совершится!» (Лк 12, 50).*

***radiovaticana***




# Сястра Гражына Юхневіч
## склала вечныя манаскія абяцанні

С. Гражына, якая належыць да Супольнасці Сясцёр Місіянерак Хрыста Валадара, прыняла вечныя манаскія абяцанні ў сваёй роднай парафіі святога Уладзіслава ў Субочніках.

Звычайна сёстры з гэтай супольнасці складаюць вечныя манаскія абяцанні ў генеральным доме супольнасці ў Польшчы. Але с. Гражына хацела падзяліцца сваёй радасцю з тымі людзьмі, якія праз увесь час манаскай фармацыі памятаў пра яе ў малітве, таму ўрачыстасць адбылася ў яе роднай парафіі.

Вечныя манаскія абяцанні с. Гражына прыняла з рук сястры генеральнай вікарыі Яніны Кошык, якая спецыяльна прыехала з Польшчы.









# Як выбіраць школу?

*Па іхніх пладах пазнаеце іх. (Мц 7, 16)*

*Бацькі выбралі для сына найлепшую, як ім здавалася, школу. У ёй было добрае абсталяванне, высокаадукаваныя настаўнікі, дзеці з прывілеяваных сем'яў... Раніцай дзед павёў унука ў школу. яны ўвайшлі на падворак, да іх падбеглі іншыя дзеці.*

*– Які недарэчны і брыдкі дзед, – засмяяўся адзін хлопчык.*

*– Гэй, ты, таўсцяк, – закрычаў другі.*

*Дзеці крычалі і скакалі вакол дзеда і ўнука. Тут празвінеў званок, які абвясціў пачатак урока, і дзеці пабеглі ў клас. Дзядуля рашуча ўзяў унука за руку і выйшаў на вуліцу.*

*– Ура, я не пайду ў школу! – узрадаваўся хлопчык.*

*– Пойдзеш, але не ў гэтую, – адказаў дзед. – Я сам знайду табе школу.*

*Дзед прывёў унука дадому, даручыў яго бабулі, а сам пайшоў шукаць лепшую школу. Як толькі дзед бачыў якую-небудзь школу, ён заходзіў у двор і чакаў, калі настаўнік адпусціць дзяцей на перапынак. У некаторых школах дзеці не звярталі на старога ўвагі, у іншых – здзекаваліся з яго. Так дзед ішоў далей і далей, ён праходзіў школу за школай. Нарэшце ён падышоў да маленькай школы і стомлена прысланіўся да агароджы.*



*Зазвінеў званок, і дзеці высыпалі на падворак.*

*– Дзядуля, вам дрэнна? Прынесці вады? – пачуўся галасок.*

*– У нас у двары ёсць лаўка, сядайце, калі ласка, – прапанаваў адзін хлопчык.*

*– Можа, я паклічу настаўніка? – спытала дзяўчынка.*

*Неўзабаве ў двор выйшаў малады настаўнік. Дзядуля прывітаўся і сказаў:*

*– Нарэшце я знайшоў самую лепшую школу для майго ўнука.*

*– Вы памыляецеся, дзядуля, наша школа не самая лепшая. Яна маленькая і цесная.*

*Дзядуля не стаў спрачацца. Ён аб усім дамовіўся з настаўнікам і пайшоў.*

*Вечарам бацькі хлопчыка спыталі дзеда:*

*– Вы не ўмееце пісаць, вы не хадзілі ў школу і нічога не разумееце ў сучаснай сістэме адукацыі. Чаму вы думаеце, што знайшлі самага лепшага настаўніка?*

*– Па вучнях пазнаюць настаўнікаў, – адказаў дзед.*

***Падрыхтавала Анна Віткоўская***

# Ад шчырага сэрца

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ёдзіку з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца складаем букет найлепшых пажаданняў: мноства Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Марыі Панны, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, як мага больш адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў, моцнага здароўя на доўгія гады, каб кожны дзень святарскай паслугі прыносіў радасць, задавальненне і добры плён. Шчыра дзякуем за вялікую працу ў нашай святыні, за Вашу дабрыню, клопат пра кожнага з нас, за прыемную атмасферу і лагодную ўсмешку. Няхай з Вамі заўсёды будзе Ваш Анёл-ахоўнік.

*З павагай і ўдзячнасцю парафіяне з Цудзенішкаў*

Паважаны Ксёндз Казімір Мурава! З нагоды 55-годдзя перасылаем Вам свае сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, добрых і верных людзей на Вашым шляху, душэўнага супакою, усмешкі, сапраўднай радасці. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус няхай будзе Вашым Сябрам, а Панна Марыя прытуляе Вас да свайго сэрдца. Няхай добры Бог разгорне над Вамі сваю няспынную апеку, а служэнне Богу і людзям прынясе задавальненне і шчодры плён. Шчасці Божа і 100 гадоў!

*З удзячнасцю былыя парафіяне*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ёдзіку з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Хрыстос, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, блаславіць кожны Ваш дзень, Маці Божая няхай ахінае Вас сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць святарскую паслугу і нястомна адорвае сваімі дарамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю. Шчасці Божа!

*З малітвай і павагай вернікі з пар. св. Яна Паўла II у Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, моцы і цярплівасці ў выкананні душпастарскіх абавязкаў. Няхай кожны дзень будзе напоўнены супакоем і Божым блаславеннем. Няхай добры і міласэрны Бог штодзённа Вас блаславіць, Маці Божая ахінае плашчом сваёй мацярынскай апекі і любові, Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі, а Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач.

*З малітвай і павагай вернікі з пар. св. Яна Паўла II у Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці і сіл для далейшай святарскай працы. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за Вашу дабрыню, а Маці Божая няхай няспынна клапоціцца пра Вас, каб нішто не засмуціла Ваш твар. Жадаем таксама добрых і зычлівых людзей побач.

*Былыя парафіяне з Зэльвы сем'і Трубей і Раманчук*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму з нагоды Дня нараджэння і чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай нялёгкі святарскі шлях будзе ўзмоцнены сілай Святога Духа і прыносіць шчодры плён. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды мае Вас у сваёй апецы. Здароўе няхай будзе моцным, а сэрца радасным і адкрытым. Дзякуем бацькам за сына святара.

*Парафіяльная рада і верныя парафіяне з касц. Беззаганнага Зачацця НПМ у мікрараёне Паўднёвы*

Паважанаму Ксяндзу Яну Радзюку з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін. У гэты асаблівы дзень мы дзякуем Богу за дар Вашага жыцця. Зазнавайце толькі зычлівасць і любоў ад кожнага чалавека, якога сустрэнеце на сваім шляху. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус няхай будзе Вашым Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца. Няхай высакароднае пакліканне і сеянне зярнят праўды Божай прынясе задавальненне ад выбару такой складанай і адказнай жыццёвай дарогі.

*З дарам малітвы вернікі з пар. св. Юзафа ў Гродне*

Паважанаму Айцу Каралю Бараноўскаму з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца перасылаем пажаданні здароўя, шчасця, нязгаснага запалу веры і плённай працы на ніве Пана. Няхай міласэрны Бог і Дух Святы дадаюць Вам сіл і натхнення, а Найсвяцейшая Панна Марыя штодзённа адорвае пяшчотай і цеплынёй свайго сэрца. Жадаем рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама зычлівых людзей на святарскім шляху!

*З малітвай і павагай парафіяне з Поразава*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Грыцко з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем шмат Божых ласкаў і апекі Маці Божай. Няхай добры Анёл ахоўвае кожную хвіліну Вашага святарскага шляху. Пражывайце кожны момант так, каб потым успамінаць з радасцю. Вам і Вашай маме жадаем доўгіх гадоў жыцця. Дзякуем за добрыя адносіны да парафіян.

*Вернікі з капл. Божай Міласэрнасці і сям'я Алены Чарняк*

Паважанаму Ксяндзу Пятру Вішнеўскаму з нагоды 50-годдзя перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, душэўнага супакою, цярплівасці ў святарскай паслузе. Няхай Беззаганная Марыя атуліць Вас сваёй мацярынскай апекай, а добры Бог адорыць сваімі ласкамі і айцоўскім блаславеннем на далейшыя гады жыцця. Няхай зычлівасць, шчырасць і давер з боку верных парафіян спадарожнічаюць Вам кожны дзень.

*Парафіяне з Шылавічаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Анатолю Захарэўскаму з нагоды Дня нараджэння жадаем усіх Божых ласкаў, Божага блаславення на кожны дзень, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, добрага здароўя на доўгія гады жыцця, сіл, стойкасці ў паслузе Богу і людзям, а таксама поспехаў ва ўсіх справах. Няхай промні з міласэрнага Сэрца Езуса заўсёды асвячаюць Ваш шлях, а побач будуць толькі добрыя і зычлівыя людзі.

*З малітвай і павагай парафіяне з Міхалішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Лазавіцкаму з нагоды надыходзячага Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, блаславіць Вас у цяжкай і адказнай святарскай паслузе, Марыя, Маці святароў, няхай атуляе Вас сваім мацярынскім плашчом і дапамагае заўсёды і ўсюды, а побач няхай будуць добрыя людзі. Ад усяго сэрца дзякуем за дабрыню, адкрытасць на людзей, мудрыя парады і клопат пра нас і наш касцёл.

*З малітвай і пашанай Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і верныя парафіяне з касц. БМ Ружанцовай у Радуні*

Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, сілы ў штодзённай душпастарскай працы, апекі Маці Божай і св. Заступніка, добрых людзей навокал і добрага плёну на Божай ніве. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і блаславёны! Шчасці Божа!

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Зэльвы*

Паважанаму Айцу Вальдэмару Слоту ў Дзень нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, шчодрых Божых ласкаў, радасці, спакойных дзён і здзяйснення ўсіх мар. Дзякуем Вам за малітву, добрае і чулае сэрца, а Богу – за тое, што паслаў Вас нам. Няхай Бог шчодра Вас узнагародзіць, а Маці Божая ахінае сваёй апекай.

*Вернікі з пар. Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

Я была ўдзельнікам XXIII Экуменічнай пешай пілігрымкі ў Вільню. На сваім шляху мы сустрэліся з вялікай сардэчнасцю гаспадароў, якія нас віталі. Асаблівую падзяку за вялікае сэрца і сапраўдную хрысціянскую міласэрнасць хочацца выказаць спадару Віктару Міхалоўскаму – дырэктару школы і інтэрната ў Радуні. Тое, якой апекай Спадар Віктар акружыў пілігрымаў, надоўга застанецца ў нашай памяці.

*З удзячнасцю Марыя Грыка-Мянскоўская з сям'ёй*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш; Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;** Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,**
ЛП 02330/39 от 27.03.2014г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5167; тыраж 6600; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная